*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 51(436) 22 СНЕЖНЯ 1999 г.

## З калядамі цябе, беларускі народ !





Незадоўга да Каляд сваім дэкрэтам папа Рымскі абвясціў аб стварэнні ў Беларусі новай дыяцэзіі (біскупства) Віцебскай. Біскупам прызначаны пробашч магілёўскага касцёла Святога Станіслава Уладзіслаў Блін. Касцёл Святой Барбары абвешчаны кафедральным. Першае ўрачыстае набажэнства біскуп Уладзіслаў вёў на беларускай мове. **На здымках: біскуп Віцебскі Ўладзіслаў Блін, кафедральны касцёл Святой Барбары. Фота Аляксандра Хітрова. БелТА.**

## *Божае Нараджэнне – КАЛЯДЫ*

Евангелле не падае дакладнай даты і дня нараджэння Хрыстуса. Першае пакаленне хрысціян не надавала гэтаму спецыяльнага значэння. Галоўным была дзейнасць Хрыстуса, асабліва Яго Вялікодная справа збаўлення. У Святым пісанні час нараджэння пададзены агульна: "Езус нарадзіўся ў Бетлееме ў Юдэі, у час гаспадарання цара Ірада" (Мц 2,1), а таксама факт публічнай дзейнасці: "... ў пятнаццатым годзе гаспадарання Цэзара Тыберыя" (Лк 3,1).

У перыяд Каляд асабліва ўрачыста святкуюцца два святы: Божае Нараджэнне (25 снежня) і З'яўленне Панскае (6 студзеня).

У Рыме першыя ўспаміны пра Божае Нараджэнне спатыкаем у IУ стагоддзі. Ва ўсходнім Касцёле на падобным грунце з'явілася некалькі раней свята падобнага зместу пад назвай Тэафанія або Эпіфанія, святкаванае 6 студзеня. Адзначаецца З'яўленне Хрыстуса: мудрацам з Усходу, у час Хросту ў Іардане і ў час першага цуду ў Кане Галілейскай. Пазней гэтыя традыцыі перамяшаліся: на Усходзе пачалі святкаваць Божае Нараджэнне, а на Захадзе – урачыстасць З'яўлення Панскага.

Зместам урачыстасці Божага Нараджэння з'яўляецца не толькі гістарычны прыход Хрыстуса, але і факт Яго Уцелаўлення. Хрыстус з'яднаў дзве асобныя дагэтуль рэчаіснасці. Адвечнае Слова стала Целам. Божы Сын стаў чалавекам.

Да свята рыхтуюцца пэўны адрэзак часу, які называецца Адвантам – гэта чатырохтыднёвы пост, час навяртання і чакання. Перадсвяточныя пакупкі, парадкі і, перш за ўсё, - парадак ва ўласнай душы праз паяднанне з Богам і бліжнімі ў Сакраманце Пакаяння і Прымірэння заканчваюцца напярэдадні ўрачыстай вячэры, так званай куцці, 24 снежня. У гэты дзень вернікаў абавязвае сціслы пост, а ўсе стравы на куцці – посныя.

Вакол свята Божага Нараджэння з'явілася многа звычаяў, якія старанна захоўваюцца, яны нясуць у сабе эмацыянальны настрой, напамінаюць сямейнае кола і дзяцінства. Яны нясуць у сабе не толькі рэлігійны сентыменталізм, але і глыбокае перажыванне, якое адчуваецца перш за ўсё падчас гэтай ўрачыстай вячэры. Яна нясе ў сабе штосьці звышурачыстае. І тут варта ўспомніць словы Хрыстуса: "Дзе двое або трое сабраліся дзеля майго імя, там і я ёсць сярод іх" (Мц 18,20). Нездарма сабор назваў хрысціянскую сям'ю хатнім храмам. Маладыя вучацца ў старэйшых, пераймаюць іх традыцыі, паглыбляюць свае веды ў рэлігіі.

У час вячэры прысутнасць Хрыстуса акцэнтуецца сумеснай малітвай, чытаннем Евангелля і запальваннем свечкі або святла на ёлцы.

Куцця, паводле мясцовага звычаю, зачынаецца на змярканні пасля з'яўлення першай зоркі. Пачынаецца яна провадам адвенту за святочным сталом спяваннем песні: "Вось прыйдзе Пан Бог". Бацька ці маці або найстарэйшае дзіця запальвае свечку, а потым святло на ёлцы. Спяваецца песня "Анёл Панскі". Найбольш распаўсюджанай малітвай з'яўляецца наступная: "Божа, Ойча наш, у гэтую ўрачыстую хвіліну выхваляем Цябе і дзякуем за ноч, сёння ўспамінаную, у якую Ты паслаў нам Свайго Сына Езуса Хрыстуса, нашага Пана і Збавіцеля. Просім Цябе: дай нашай сям'і любоў, згоду, мір, абдары суседзяў, прыяцеляў і знаёмых мірам гэтай ночы, усіх забытых і адзінокіх, хворых і бедных пацеш Добрай Навіною, памёршых (пры гэтым называюцца імёны) абдары шчасцем і святлом Тваёй хвалы... " У перапынках паміж просьбамі ўсе ў адзін голас адказваюць: "Выслухай нас, Пане!"... Хто-небудзь з прысутных чытае фрагмент з Евангелля: "Выйшаў ад кесара Аўгуста загад зрабіць спіс жыхароў ва ўсёй дзяржаве. Гэты спіс быў першы за гаспадарання Квірынея ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў сваё места. Пайшоў таксама і Язэп з Галілеі, з места Назарэту ў Юдэю, у места Давідавае, званае Бэтлеемам, бо ён быў з дому і роду Давідавага, запісацца з Марыяю, заручанай з ім жонкай, што была цяжарная. Калі ж яны былі там, падыйшоў час радзіць ёй і нарадзіла Сына Свайго Першага і спавіла Яго, і палажыла Яго ў Жолаб, бо не было ім месца ў заездзе..." (Лк 2,1-8). Можна прачытаць і даўжэйшы тэкст: Лк 2, 1-14; Мц 1, 18-24; Ян 1, 1-8.

Затым бацька выказвае кожнаму пажаданне і дзеліцца калядой (аплаткай) спачатку з маці, а пасля з усімі хатнімі, якія ў сваю чаргу выказваюць адзін другому пажаданні і дзеляцца калядой. Сама вячэра павінна праходзіць у атмасферы ўзаемнага братэрства і зычлівасці, згодна з мясцовымі традыцыямі. Пасля вячэры спяваюць калядныя песні, пасля чаго ўсе ідуць на Святую Імшу да касцёла-заазвычай апоўначы, дзе і сустракаюць урачыстасць Свята Нараджэння Хрыстуса.

Першы дзень Каляд святкуецца пераважна дома, у сямейным коле. У гэты дзень выключаюцца ўсялякія візіты. Усе павінны памятаць пра рэлігійны характар дня, абавязкова ўдзельнічаць у Святой Імшы.

Ад Каляд распачынаецца Вялікі Юбілей хрысціянства – год асаблівай ласкі Божай. Навяртанне – гэта адна з галоўных апор часу ласкі. Касцёл прагне перажыць гэты Юбілей у адзінстве з Богам і ўсімі людзьмі.

Неўзабаве Свята Каляды прыдзе ў дамы католікаў, а 7 студзеня сустрэнуць яго праваслаўныя.

Свята Каляды – гэта найперш свята радасці, любові і ўзаемнага міру. Нездарма напярэдадні свята і ў час яго людзі віншуюць адзін аднаго, жадаюць моцнага здароўя, шчасця і шчодрых блаславенняў нованароджанага Збаўцы.

***Мечыслаў Хвайніцкі,***
***г. Ліда.***

## Дзяржаўнаму літаратурна-мемарыяльнаму музею Якуба Коласа 40 гадоў



*Спадарыні Камароўскай, дырэктару*
*Літаратурнага музея Якуба Коласа*
*66-А, пр. Ф. Скарыны, Менск-72*

**Шаноўная спадарыня Зінаіда!**

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны далучаецца да ўсіх тых віншаванняў, якія атрымаў музей з нагоды слаўнага юбілею -- 40-годдзя з дня заснавання.

Жадаем супрацоўнікам музея і надалей годна несці ў жыццё імя класіка беларускае літаратуры, актыўна прапагандаваць ягоную творчасць, без якое немагчыма ўявіць сабе вобраз роднае Беларусі.

Няхай Дом Якуба Коласа саграе сваёй цеплынёю сэрцы ягоных наведвальнікаў, а таксама выклікае любасць да роднае старонкі ды лучыць усіх нас у адзіную беларускую сям'ю!

Жыве мова Якуба Коласа, а разам з ёю і наш народ!

***Старшыня ГА ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.***

## Заслужаны артыст краіны

Званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" прысвоена дырэктару і вядучаму акцёру Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Рыгору Іванавічу Шацько. Гэтым высокім званнем ён уганараваны за вялікі асабісты ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва.

Упершыню Рыгор Іванавіч трапіў на коласаўскую сцэну ў 1984 годзе. Яго дэбютам стала роля Аляксандра Залатнікова ў спектаклі "Ах, які пасаж!", а этапамі ў творчай біяграфіі - вобразы ў спектаклях "Дзядзя Ваня", "Рэцэпт Макропуласа", "Марлен... Марлен", "Шагал... Шагал...".



Фота Аляксандра Хітрова. БелТА.

# СТАТУТ

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

***Паважаныя сябры і прыхільнікі ТБМ!***

*Па просьбе шараговых сяброў ТБМ (а нас зараз каля 5000 чалавек) "Наша слова" друкуе новы Статут ТБМ, які быў перарэгістраваны ў Мінюсце Беларусі 6 верасня 1999 года.*

*Гэта версія нашага меншага памеру, бо адсутнічаюць уводзіны. Есць пэўныя змены і ў тэксце, якія ў першую чаргу выкліканы зменамі ў дзеючым зараз заканадаўстве.*

*У першую чаргу, гэта немагчымасць быць сябрамі ТБМ юрыдычных асоб. Зараз сяброўства ТБМ – сугуба індывідуальная справа.*

*Узмоцнена і больш акрэслена асноўная мэта дзейнасці ТБМ – гэта садзейнічанне забяспечанню беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай мовы.*

*Мы просім усіх сяброў ТБМ і, у першую чаргу кіраўнікоў суполак, захаваць тэкст статута, каб карыстацца ім у сваёй штодзённай працы.*

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 24 снежня 1991 года. Пасведчанне № 214

**ПЕРАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 22 сакавіка 1995 года Пасведчанне № 0129

**ПЕРАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 06 сентября 1999 года Пасведчанне № 00528

**ПРЫНЯТЫ** на Устаноўчым з'ездзе ТБМ 27 чэрвеня 1989 года

**ПРЫНЯТЫ** ў новай рэдакцыі на пасяджэнні Рэспубліканскай Рады 9 сакавіка 1995 года

**ПРЫНЯТЫ** ў новай рэдакцыі VI з'ездам ТБМ 17 красавіка 1999 года

### 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1.1. Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (далей па тэксту – ТБМ) -- добраахвотная масавая грамадская арганізацыя, у якой аб'ядналіся грамадзяне з мэтай культурна-асветніцкай дзейнасці ў галіне адраджэння беларускай мовы ў Беларусі і праз яе – усёй беларускай нацыянальнай культуры. ТБМ дзейнічае ў адпаведнасці з дзеючай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.01.1999. № 2, Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", іншымі палажэннямі дзеючага заканадаўства і дадзеным Статутам.

1.2. ТБМ дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

1.3. ТБМ арганізуе сваю работу на прынцыпах дэмакратызму, плюралізму, самакіравання, галоснасці, падтрымлівае і развівае творчую актыўнасць і ініцыятыву яго сяброў і дзейнічае супольна з дзяржаўнымі, навуковымі ўстановамі, грамадскімі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

1.4. ТБМ з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае самастойны бухгалтарскі баланс, пячатку, штампы вызначанага ўзору з адлюстраваннем эмблемы, зарэгістраванай ва ўстаноўленым парадку, разліковыя рахункі ў банкаўскіх установах (у тым ліку валютныя; ад свайго імя выступае ва ўзаемаадносінах з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі. Юрыдычнымі асобамі з'яўляюцца і арганізацыйныя структуры ТБМ.

1.5. ТБМ можа мець ва ўласнасці рухомую і нерухомую маёмасць дзеля ажыццяўлення статутных мэтаў і задач, за выключэннем аб'ектаў, якія згодна з законам могуць знаходзіцца толькі ва ўласнасці дзяржавы.

1.6. ТБМ можа мець сваю сімволіку і іншую атрыбутыку, якая зацвярджаецца Радай і рэгіструецца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

1.7. ТБМ можа ўступаць у міжнародныя грамадскія аб'яднанні, удзельнічаць у стварэнні міжнародных саюзаў, грамадскіх аб'яднанняў, падтрымліваць прамыя міжнародныя кантакты і сувязі, заключаць адпаведныя пагадненні і рабіць іншыя захады, якія не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь і яе міжнародным абавязацельствам.

1.8. Справаводства ў ТБМ вядзецца ў парадку, які вызначаны заканадаўствам. Адпаведная дакументацыя ў абавязковым парадку здаецца ў Дзяржаўны архіў.

1.9. Юрыдычны адрас ТБМ: 220005, г.Мінск, Румянцава, 13.

### 2. МЭТЫ, ЗАДАЧЫ І МЕТАДЫ ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

2.1. Асноўныя мэты дзейнасці ТБМ – аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэнне яе ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковае развіццё і захаванне яе чысціні і самабытнасці, садзейнічанне забеспячэнню ёй рэальнага статусу дзяржаўнай мовы.

2.2. Галоўная задача ТБМ – адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа, а таксама:

- садзейнічанне зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці, фарміраванню самасвядомасці, пераадоленню нацыянальнага нігілізму;
- аказванне неабходнай падтрымкі ў сферы нацыянальна-культурнага развіцця беларусам, якія жывуць за межамі Рэспублікі Беларусь;
- садзейнічанне адраджэнню на Беларусі нацыянальнай асветы, забяспячэнню умоў для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове;
- пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры.

2.3. Для ажыццяўлення статутных мэтаў і задач ТБМ выкарыстоўвае наступныя метады:

- пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры.
- спрыяе развіццю непасрэднага перакладу ўсіх відаў літаратуры з замежных моў на беларускую і садзейнічае выкарыстанню беларусай мовы ў працы замежных прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, устаноў, прадпрыемстваў і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь;
- удзельнічае ў распрацоўцы і ўвасабленні ў жыццё навуковай канцэпцыі беларускай мовы, клапоціцца пра культуру літаратурнай мовы, яе адзінства і ўдасканаленне правапісу;
- бесперашкодна атрымлівае і распаўсюджвае інфармацыю, якая мае дачыненне да дзейнасці ТБМ, засноўвае ўласныя і карыстаецца ў вызначаным парадку дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі;
- прадстаўляе і абараняе правы і законныя інтарэсы сваіх сяброў у дзяржаўных, гаспадарчых і грамадскіх органах і іншых арганізацыях;
- ТБМ мае права выдавецкай дзейнасці і свой перыядычны друкаваны орган.

### 3.СТРУКТУРА, ВЫБАРНЫЯ ОРГАНЫ, УМОВЫ СТВАРЭННЯ АРГАНІЗАЦЫЙНЫХ СТРУКТУР ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

3.1. Вышэйшым кіраўнічым органам ТБМ з'яўляецца з'езд, які склікаецца адзін раз на два гады.

З'езд прымае Статут і іншыя дакументы, уносіць у Статут змены і дапаўненні, абірае старшыню ТБМ, Раду, Рэвізійную камісію і яе кіраўніка, заслухоўвае і зацвярджае справаздачу Рады і Рэвізійнай камісіі, зацвярджае рэдактара выдання, вырашае іншыя пытанні, прымае рашэнне аб рэарганізацыі, ліквідацыі ТБМ.

Нечарговы з'езд склікаецца Радай ці з патрабавання не менш чым адной трэці раённых (гарадскіх) арганізацый ТБМ, або Рэвізійнай камісіяй.

Час і месяц з'езда, норму прадстаўніцтва, парадак абрання дэлегатаў вызначае Рада ТБМ.

Рашэнні з'езда правамоцныя пры наяўнасці больш за 1/2 дэлегатаў. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў ад прысутных. Парадак, форма і ўмовы галасавання вызначаюцца з'ездам.

3.2. Кіруючым органам ТБМ паміж з'ездамі з'яўляецца Рада.

Рада збіраецца не радзей як два разы на год. Рада вырашае статутныя задачы ТБМ, абірае сакратарыят, стварае іншыя рабочыя органы і камісіі, пры неабходнасці ўносіць змены і дапаўненні ў Статут; прымае рашэнні аб набыцці, распараджэнні і адчужэнні маёмасці, зацвярджае ўзоры пячаткі, сімволікі і іншай атрыбутыкі; зацвярджае рашэнні аб колькасці і тэрмінах платы ўзносаў; ажыццяўляе прыём у сябры ТБМ; вырашае іншыя пытанні дзейнасці ТБМ.

Паседжанні Рады лічацца правамоцныя пры наяўнасці больш за палову яе сяброў.

Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў ад прысутных.

3.3. Сакратарыят – выканаўчы орган, які працуе стала, выконвае пастановы і даручэнні з'езда і Рада, ажыццяўляе прыём новых сяброў, кіруе справамі ТБМ на падставе Статута ў межах правоў, нададзеных Радай.

3.4. Рада і сакратарыят ТБМ выконваюць свае абавязкі на грамадскіх асновах.

3.5. ТБМ можа мець сваіх штатных супрацоўнікаў для выканання штодзённай арганізацыйнай і тэхнічнай працы.

3.6. Аснова ТБМ – першасныя суполкі і раённыя (гарадскія), абласныя арганізацыі. Суполкі ствараюцца па тэрытарыяльных і вытворчых прынцыпах, пры наяўнасці не менш чым трох сяброў ТБМ.

3.7. Суполкі могуць аб'ядноўвацца ў раённыя (гарадскія) арганізацыі пры наяўнасці не менш чым трох суполак.

3.8. Абласныя арганізацыі ТБМ ствараюцца пры наяўнасці не менш трох раённых (гарадскіх) арганізацый.

3.9. Вышэйшым органам раённых (гарадскіх), абласных арганізацый з'яўляецца канферэнцыя, якая вызначае формы і метады іх работы і структуру выбарных органаў (Рады, Рэвізійнай камісіі), формы і ўмовы галасавання.

Канферэнцыя праводзіцца не радзей за 1 раз на 2 гады па рашэнні кіруючых органаў ці Рэвізійнай камісіі, якія вызначаюць тэрмін правядзення і колькасць сяброў.

Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў ад прысутных.

3.10. Мясцовыя арганізацыі ТБМ (абласныя, раённыя, гарадскія) маюць тыя ж мэты і задачы, дзейнічаюць у адпаведнасці з гэтым Статутам.

3.11. Азначаныя арганізацыі рэгіструюцца і каардынуюць сваю дзейнасць праз рэспубліканскія кіруючыя органы ТБМ. Старшыня ТБМ валодае паўнамоцтвамі кіраўніка Таварыства як юрыдычнай асобы.

3.12. Рэвізійная камісія:

- кантралюе дзейнасць выбарных органаў і структурных падраздзяленняў Таварыства;
- правярае арганізацыю справаводства, тэрміны і змест адказаў на лісты і заявы сяброў ТБМ і іншых грамадзян, кантралюе выкананне Статута сябрамі ТБМ.

Рэвізійная камісія ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці са Статутам.

Паседжанне Рэвізійнай камісіі праводзіцца па меры неабходнасці, але не радзей чым 1 раз у паўгода.

Паседжанні правамоцныя пры наяўнасці больш за палову сяброў Рэвізійнай камісіі.

Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў ад прысутных.

Работай Рэвізійнай камісіі кіруе старшыня. Сябры Рэвізійнай камісіі не могуць абірацца ў іншыя выбарныя органы, а таксама займаць пасады кіраўнікоў і адказных спецыялістаў у структурных падраздзяленнях.

Сябры Рэвізійнай камісіі могуць удзельнічаць у паседжаннях усіх выбарных органаў з правамі дарадчага голасу.

3.13. Тэрміны паўнамоцтваў выбарных органаў – два гады.

3.14. Паседжанні калегіяльных органаў афармляюцца пратаколамі.

### 4. СЯБРЫ ТБМ, ІХ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ

4.1. Сябрам ТБМ можа быць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, старэйшы за 16 гадоў, а таксама іншыя грамадзяне і асобы без грамадзянства, хто прызнае мэты і задачы ТБМ, спрыяе іх ажыццяўленню.

4.2. Вучні агульнаадукацыйных школ, маладзейшыя за 16 гадоў, навучэнцы ПТВ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў могуць аб'ядноўвацца ў юнацкія секцыі ТБМ.

4.3. Прыём сяброў у склад ТБМ ажыццяўляецца першаснымі суполкамі, а пры іх адсутнасці – раённай (гарадской) Радай, Радай ТБМ або Сакратарыятам на падставе пісьмовай або вуснай заявы.

4.4. Сябры ТБМ маюць права мець асабовыя пасвед-чанні і нагрудныя значкі. Узоры пасведчання і нагрудных значкоў зацвярджае Рада ТБМ.

4.5. Сябры ТБМ маюць права абіраць, быць абранымі ва ўсе органы Таварыства, карыстацца яго маральнай і матэрыяльнай падтрымкай у межах магчымасцяў ТБМ.

4.6. Сябры ТБМ абавязаны:

- імкнуцца дасканала авалодаць беларускай мовай, карыстацца ёю ў штодзённым ужытку, у сям'і, на працы, тым самым спрыяць выхаванню паважлівага стаўлення да яе;
- дапамагаць іншым авалодаць беларускай мовай;
- прапагандаваць перыядычныя беларускія выданні, кнігі на беларускай мове, садзейнічаць адкрыццю беларускамоўных дзіцячых садкоў і школ, спрыяць пераходу вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў на беларускую мову;
- зберагаць, захоўваць і памнажаць скарбы беларускай літаратурнай мовы, а таксама клапаціцца пра захаванне, збіранне і вывучэнне мясцовых народных гаворак, тапонімаў, народнай тэрміналогіі;
- клапаціцца пра павышэнне культуры як уласнай пісьмовай і вуснай, так і ў грамадскіх сферах жыцця;
- своечасова плаціць сяброўскія ўзносы;
- падтрымліваць ТБМ матэрыяльна.

4.7. Прыпыненне сяброўства ў ТБМ наступнае:

а) па ўласным жаданні;

б) па рашэнні суполкі або адпаведных кіраўнічых органаў ТБМ у сувязі з парушэннем Статута, а таксама ў сувязі з учынкамі, якія шкодзяць аўтарытэту ТБМ.

### 5. МАТЭРЫЯЛЬНА-ФІНАНСАВАЯ АСНОВА ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

5.1. ТБМ мае свае сродкі, якія фарміруюцца:

- з узносаў сяброў ТБМ;
- з дабрачынных складак яго сяброў;
- з ахвяраванняў і іншых укладаў прыватных асоб, устаноў, прадпрыемстваў, кааператыўных гаспадарак, іншых арганізацый Рэспублікі Беларусь, а таксама замежных дзяржаў;
- з паступленняў ад правядзення лекцыйнай, выдавецкай і іншых відаў дзейнасці, не забароненых заканадаўствам.

5.2. Суполкі, рэгіянальныя арганізацыі штоквартальна або (са згоды сакратарыята) з іншай перыядычнасцю робяць адлічэнні на цэнтральны рахунак ТБМ ад сваіх фінансавых даходаў у памеры не менш як 25%.

5.3. Сродкі ТБМ ідуць на прапагандысцкую, арганізацыйную, гаспадарчую і іншую статутную дзейнасць на карысць нацыянальнай мовы і культуры.

5.4. Памеры складак сяброў ТБМ вызначаюцца рашэннем Рады ТБМ.

### 6. СПЫНЕННЕ ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

6.1. Спыненне дзейнасці ТБМ ажыццяўляецца шляхам рэгістрацыі ці ліквідацыі па рашэнні 2/3 дэлегатаў з'езда або судовых органаў Рэспублікі Беларусь у парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

6.2. Рэарганізацыя ТБМ адбываецца згодна з рашэннем з'езда, маёмасць і грашовыя сродкі пры гэтым пераходзяць да правапераемніка.

6.3. Ліквідацыя ТБМ ажыццяўляецца згодна з пастановай з'езда або на падставе рашэння судовага органа Рэспублікі Беларусь, якое ўступіла ў законную сілу.

6.4. Ліквідацыя ТБМ праводзіцца ліквідацыйнай камісіяй, створанай па рашэнні з'езда або суда. Маёмасць і грашовыя сродкі ТБМ пасля пагашэння абавязковых плацяжоў і крэдыторскай запазычанасці накіроўваюцца на ажыццяўленне мэтаў, прадугледжаных Статутам.





Тадэвуш Касцюшка

# ЦІ МАЕ НАША НАЦЫЯ МАГЧЫМАСЦІ ДЛЯ ПАЎСТАННЯ І ЯКІЯ ЯНЫ?

Тыя, каму не хапае адвагі распачаць смелыя і дабрачынныя справы, вылучаюць на першы план няздольныя цяжкасці, якія можа сустрэць задуманая справа, калі ім назавуць прыклады, што абуджаюць бадзёрасць, дык яны адкажуць, што там былі спрыяльныя абставіны, а тут непераадольныя перашкоды. (...). Паглядзім, наколькі легкаважныя іх довады і ў якой ступені памылковыя іх разважанні. (...). Хіба ж можна было надзеяцца, што суайчыннікі Вільгельма Тэля, (...), змогуць аказаць супраціўленне магутнай аўстрыйскай дзяржаве? Энэргія, любоў да свабоды і энтузіязм, якія сілкуюцца ўсведамленнем справядлівасці сваёй справы, перамаглі ўсе. Калі Галандыя, цяпер багатая (...), распачала барацьбу за сваю незалежнасць з дзяржавай, якая была ў той час самай магутнай у Еўропе, (...) яна (...) была ў найвялікшай ступені беднай краінай; яна не магла рабіць ніякіх вайсковых прыгатаванняў (...); геаграфічнае становішча нічым не засланяла яе з ніякага боку, яе абараняла адна толькі мужнасць яе жыхароў. (...). Але, каб не захапляцца чужымі прыкладамі, звернемся да суайчыннікаў. Хто сказаў бы за дзесяць гадоў да 1794 г. што мы з васемнаццаццю тысячамі войска, маючы у межах краіны ворага і ўрад, які варожа ставіўся да нас, зможам вясці вайну з трымя дзяржавамі, мужна змагацца і пакрыем сябе славай? Здаецца, што калі б хтосьці паабяцаў перанесці горы з аднаго месца на другое, дык яму паверылі б хутчэй, чымсьці гэтаму прадказанню. Але ж яно здзейснілася. І хаця ў выніку нашых памылак і нашай віны намер нацыі не быў дасягнуты, але адметны выступ вымусіў Еўропу паважаць суайчыннікаў, выявіў іх дух, які імкнецца да дабрачыннасці і свабоды, гуманнасць святкавала тады свой трыумф; селянін лічыў сябе нованароджаным, калі адчуў, што ён можа быць свабодным, карыстацца правасуддзем і быць сяброўным другім людзям. Ворагі азвярэла пралівалі нашу кроў, але ніколі яны (я ўжо не кажу пра пахвалу Еўропы) так не паважалі нашу нацыю, як пасля апошняга выступу. Справядлівасць і яе абаронцы робяць такі вялікі ўплыў на чалавечы розум, што нават злачынны гвалт не можа адмовіць ім у павазе.

Мы мелі ў сябе прыклад таго, што перамогу даюць не колькасць войска, не досвед старых вояроў, а энтузіязм, народжаны дабрачыннасцю і свабодай ды стойкасць. (...). Суайчыннікі, калі толькі захочуць, калі толькі выкажуць неадольнае жаданне дамагчыся свабоды, змогуць пачаць выступ (калі толькі ў гэтым будуць аднолькава зацікаўлены ўсе грамадзяне) і перамагчы супраціўніка. Толькі людзі з зачарствелай душой і абмежаваным кругаглядам лічаць, што ў нас для гэтага недастаткова магчымасцяў. (...). Удзельнікі рэвалюцыі 1794 г. ведаюць, што, калі яны яе пачыналі, людзі, якія не жадалі нічым ахвяраваць, гаварылі, што нельга рабіць выступ, што нацыя інертная і ёй нестае адвагі; мужнасць і мудрасць яны бачылі толькі ў ворагаў і заяўлялі, што толькі ў эпоху сойму можна было думаць аб незалежнасці. Якраз тое ж і цяпер; хто не з'яўляецца сябрам чалавечнасці, хто не хоча працаваць для шчасця і свабоды сваіх родзічаў, той будзе палохаць уяўленне людзей, але не стане пераадольваць цяжкасці і выкарыстоўваць сітуацыю з выгадай для народа. Разгледзім, якімі сродкамі мы валодаем.

(...) Можам ўпэўнена разлічваць на тое, што калі мы распачнем выступ і, чым больш ён будзе працягвацца, тым менш у яго будзе заставацца праціўнікаў і ўсё больш будуць павялічвацца яго сілы. Мы ўжо мелі падобныя прыклады у Францыі. Але хіба ж рускі земляроб, жорстка прыгнятаны сваімі панамі, пры спрыяльных абставінах не кінецца на сваіх прыгнятальнікаў у імкненні разбіць сваё ярмо? Хіба ж прыгнечаны казак не імкнецца вярнуць сваю вольнасць? (...). Цяпер аб зброі. Суайчыннікі напачатку свайго выступу павінны імкнуцца не да таго, каб фармаваць вайсковыя калоны, але рабіць усё, каб знішчыць праціўніка. З часам, пры спрыяльных умовах, з'явяцца арміі. Наша краіна не заслоненая, раўнінная, сюды лёгка пранікнуць, але як добра сказаў Ж.Ж.Русо, суайчыннікі не павінны перашкаджаць праціўніку ўвайсці ў межы іх Айчыны, але павінны старацца, каб ён не выйшаў з яе. Сродкам для гэтага з'яўляецца малая вайна (la petite guerre); сучаснасць яе ў тым, каб раздзяліць варожыя сілы і пазбавіць іх сілкавання.(...). Для пяхоты мы маем найлепшую зброю – касу. На думку Касцюшкі, калі касінер мае мужнасць, дык няма зброі, якая змагла б супрацівіцца касе (...). Усіх сваіх перамог французы дамагліся пры дапамозе штыка (...). Штык быў зброяй перамогі. Каса яшчэ больш эфектыўная зброя, яна даўжэй за штык, лягчэй дасягае ворага; штык толькі коле, каса ж адначасова і коле і рэжа.(...). Са штыком можна змагацца супроць аднаго; жаўнер, узброены касой, калі ён мае дастатковую фізічную сілу, зможа адначасова раніць трох ці чатырох чалавек.(...). Я хачу, каб генералы і афіцэры выступалі з прамовамі перад народам і жаўнерамі, падбадзёрвалі іх. Рымскія правадыры заўсёды перад бітвай звярталіся да вояроў з прамовай, у якой паказвалі прычыны вайны і даказвалі яе справядлівы характар. Набходна абудзіць у змагароў адвагу, трэба распаліць у іх энтузіязм, а хіба ж гэта магчыма без звароту да іх? Чалавечая душа – не машына, яе нельга прывесць ў рух штуршком рукі, а – толькі прыёмамі маральнага ўздзеяння. Я хацеў бы, каб усе генералы і камандзіры гаварылі тым, каго яны вядуць у бой: "Вось нашы ворагі. Якія разадралі на шматкі нашу Айчыну і хацелі б зняволіць яе ўсю; гэта тыя, хто перашкаджае вызваленню вашых бацькоў, вашых братоў, вас саміх; яны вылучаюць сваіх жаўнераў для таго, каб мы не мелі аднолькавых праў, не жылі як браты, але трымалі адзін аднаго пад уціскам, адносіліся адзін да другога са знявагай і пагардай. Мы хочам, каб вы былі свабоднымі, яны – каб вы заставаліcь падданымі каралёў, не мелі права ўласнасці на вынікі сваёй працы, не мелі ніякіх праў і залежалі ад іх самавольства,



ад іх жорсткасці і ад іх капрызаў. Яны хочуць, каб каралі бралі вас у рэкруты і пасылалі рабаваць чужыя краіны. Суайчыннікі, вы нарадзіліся на гэтай зямлі, вы атрымалі яе ў спадчыну ад вашых бацькоў, тут знаходзяцца магілы вашых продкаў, тут спачывае іх прах, гвалтоўнік топча іх і адносіцца да іх з пагардай, ён трымае вас, іх нашчадкаў, у рабстве(...). Ідзіце за мной! Вы не маеце досведу, але я буду камандаваць вамі, будзем біць гвалтоўніка і не перастанем змагацца з ім да таго часу, пакуль яго не дагоніць смерць, ці пакуль ён не складзе зброі перад намі, пераможцамі. Несправядлівасць можа ўжываць усялякія хітрасці, але яна пазбаўлена магчымасці хваляваць душы.(...). Чым больш мы будзем пераконваць кожнага суайчынніка ў яго мужнасці, тым больш мужным ён стане; як і наадварот: чым больш пагардліва адносяцца да чалавека, тым ніжэй ён сам пачынае сябе цаніць. Асобныя айчынныя генералы пагардліва адносіліся да касінераў. Як жа гэтыя людзі пад такім камандаваннем маглі адважыцца на гераічныя ўчынкі? Замест таго, каб абуджаць веру ў сілу іх зброі, яны яе падрывалі. Легкадумныя галавы ўяўлялі, што чалавек не зможа змагацца ці пазбаўлены мужнасці, калі ён не адзеты ў мундзір сваёй краіны. Не форма адзення і род зброі ствараюць змагара, а адвага і імкненне да перамогі. Я б пажадаў, каб да абароны свабоды не дапускалі аніводнага генерала, які не адданы ёй. Я не спадзяюся на адданасць прысязе, бо гэтая дабрачыннасць уласціва нават рабам і слугам. Айчынны генерал і салдат павінны быць не толькі сродкамі вайсковага мастацтва, але і грамадзянамі, яны павінны лічыць недатыкальнай уласнасць кожнага чалавека ў такой жа ступені, як сваю ўласную; кожны павінен быць адважным, дысцыплінаваным, справядлівым і добрасумленным, так як зброя ўзнята не дзеля шчасця аднаго, а за шчасце ўсіх. Неабходна, каб правадыр натхняў народ любоўю да свабоды, бо як жа ён будзе гаварыць аб ёй, калі сам не любіць яе ўсёй душой? Які поспех будуць мець яго старанні? Як можна спадзявацца на гонар чалавека, словы якога супярэчаць ягоным перакананням? Я лічу, што ваенны талент змяшчаецца ў тым, каб умець выкарыстоўваць кожнае становішча для той справы, за якую змагаюцца, каб дзейнічаць адпаведна генію нацыі, рэсурсам краіны і яе геаграфічнаму становішчу. (...). Чалавечая думка бязмежна вынаходніцкая; калі мы прыкладзём намаганні, хто ведае, якія мы яшчэ знойдзем сродкі.(...). Старанцасць дабіваецца ўсяго, а настойлівасць перамагае. Лойд піша, што свабода з'яўляецца самым магутным стымулам для абуджэння мужнасці змагароў. (...). Калі мы распалім імкненне да яе ў душы нашага народа, дык ён не толькі не будзе пераможаны, але сам абавязкова пераможа.(...)

Разгледзім вайсковы бок справы.

Уявім сабе армію ў некалькі дзесяткаў альбо ў сто тысяч чалавек (...). Вялікая армія мае патрэбу ў вялікай колькасці правіянту, але яна яго не збярэ, калі інсургенты будуць ёй увесь час рабіць перашкоды і хаваць правізію. Калі армія пачне падзяляцца на дробныя часткі для ўціхамірання інсургентаў і для здабывання правізіі, паўстанцы пачнуць аб'ядноўвацца і змогуць рабіць напады на невялікія аддзелы ворага; такім чынам яны змогуць задушыць, знішчыць і перамагчы гвалтоўнікаў. Мясцовым жыхарам пры малой вайне змагацца намнога лягчэй, чым ворагу. Яны ведаюць усе пераправы, усе сцежкі, пра якія ворагу невядома і якімі ён не зможа карыстацца; яны змогуць згуртавацца, зрабіць нечаканы напад на ворага, а пасля гэтага ім лягчэй схавацца.(...). Варожы салдат не зможа карыстацца тымі ж сродкамі, што і мясцовы жыхар. Салдаты павінны трымацца разам, знаходзіцца ў шыхце, паасобку яны становяцца слабымі і мала абароненымі. Суайчыннік, узброены стрэльбай ці касой, пройдзе праз усе кусты і балоты; ворагу для яго артылерыі патрэбны добрыя дарогі і бяспечныя схованні, у якія ён зможа размясціць жаўнераў. Напаследак, суайчыннікі змогуць рабіць паспяховыя начныя напады, якія стануць найбольш эфектыўнымі; агонь са стрэльбаў і варожай артылерыі ў такой сітуацыі не прынясе поспеху, каса ж зможа прынесці больш шкоды. Ноччу вораг не зможа зшыхтаваць свае войскі, не зможа выканаць манеўры і збянтэжыцца. Калі нават не ваяваць, але днём і ноччу няспынна непакоіць супраціўніка, дык жаўнеры ад гэтых цяжкасцяў стомяцца, сярод іх распаўсюдзяцца захворванні, і яны пачнуць губляць мужнасць.(...). Мы ведаем, якое вялікае значэнне ў час барацьбы мае добрая праца лазутчыкаў(...). Суайчыннікі(...) будуць няспынна сеяць няўпэўненасць сярод ворагаў і стамляць іх, таму што ў чаканні небяспекі на кожным кроку, вораг вымушаны будзе спыняцца і вясці разведку мясцовасці; інсургенты ж тым часам змогуць зрабіць на яго напад, акружыць і знішчыць, асабліва ноччу. Знаёмства з мясцовасцю вельмі неабходна для змагара. Густаў Адольф, першы герой сваёй эпохі, казаў, што без гэтага нават самы таленавіты палкаводзец не зможа дасягнуць поспеху, таму што ён будзе не ў стане зрабіць раптоўны напад на ворага ці засаду. Войска ніколі не зможа ведаць умоў мясцовасці, тым больш чужой, як тыя, хто тут нарадзіўся і жыве. Французы перамаглі Еўропу, але не змаглі справіцца з Вандэяй. Французы ніколі не няслі такіх страт у бітвах з замежнымі войскамі, як у гэтай правінцыі. Хаця там змагаліся французы з французамі, але ж вандэйцы ведалі ўсе закуткі, былі настойлівымі і мелі магчымасць падкрадвацца да супраціўніка, акружаць рэспубліканскае войска і такім чынам рабіць яму вялікія страты. Як толькі яны згадзіліся прыняць прапанаваныя ім умовы, наступіў мір. Апасля вандэйцы ўжо не змаглі распачаць вайну, бо сярод іх не было адзінства.(...). Я лічу, што ў такой вайне, якую я прапаную, нават горы не былі б карыснымі для нас. У гарах трэба мець пушкі і стрэльбы для таго, каб не прапусціць праціўніка; калі ж ён авалодае гарамі, дык ён зачыніць усе перавалы, стане марыць краіну голадам і такім чынам задушыць супраціўленне яе насельнікаў. На нашых жа раўнінах, калі суайчыннікаў выцісънуць з аднаго месца, яны змогуць перайсці на другое. У нашай краіне няма такога месца, дзе б вораг адчуваў сябе цалкам у бяспецы пасля таго, як ён завалодаў ім. У асобных мясцовасцях у нас лясы цягнуцца на мілі, у іншых-нават на дзесяткі міль; супраціўніку трэба мець агромністае войска для таго, каб акружыць адзін лес, ёсць і такія лясы, якія немагчыма акружыць. Калі ўся краіна паўстане, дык ворагу будзе не да акружэння, бо на яго адусюль будуць нападаць.(...). Калі ўся нацыя пачне выступ(...), мы сфармуем шматлікую лёгкую кавалерыю, якая будзе (...) няспынна парушаць яго камунікацыі (...). Перарэзаць шляхі зносін мясцовых жыхароў немагчыма ці вельмі цяжка, асабліва ў нас, на раўнінах. Мясцовыя жыхары ведаюць усе таемныя пераправы, маюць магчымасць здалёку падаваць адзін другому знакі, у адпаведнасці з якімі яны выконваюць свае манеўры.

*(Заканч. у наст. нумары.)*

№ 51 (436) 22 СНЕЖНЯ 1999 г. Наша слова



Любоў Уладыкоўская - Канаплянік з Алесем Разанавым

Л. М. Уладыкоўская-Канаплянік, кандыдат філалагічных навук
дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны

# Хрысціянскі фактар і беларуская нацыянальная ідэя на сучасным этапе

Даследаванні праблем нацыяналізму сталі асаблiва актуальнымі ў Беларусі за апошнія дзесяцігоддзе. Прычын таму шмат, але асноўныя – наступныя:

1. Далучэнне Беларусі да сусветнай інфармацыйнай прасторы і распаўсюджванне тут тэорый заходніх вучоных аб культурнай аўтаноміі, культурных колах, канцэпцыі нацыянальнага друку, нацыянальнай волі (Т.Кон, К.Дойч, Б.Шэйфер і інш.), ідэй расавай душы Шпенглера і Фрабеніуса і г.д.

2. Трансфармацыя зместу гуманітарных навук, паступовая пераарыентацыя і іх на нацыянальныя каштоўнасці і ідэалы з імкненнем пазбавіцца вульгарызаванага, спрошчанага падыходу да нацыянальных праблем.

3. Уступленне беларускай нацыі ў новы этап свайго развіцця, звязаны з уратаваннем незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь і неабходнасцю выпрацоўкі яе стратэгіі і тактыкі.

Сярод найбольш часта ўжывальных у навуковых і публіцыстычных артыкулах тэрмінаў – тэрмін "беларуская нацыянальная ідэя", які, часта памылкова падмяняе сабою паняцце беларускага светапогляду, беларускай самасвядомасці, нацыянальнай свядомасці і г.д. Гэта звязана не толькі з нераспрацаванасцю праблематыкі, але і з немагчымасцю дакладнай навуковай класіфікацыі і сістэматызацыі нацыянальных ідэй, з адсутнасцю крытэрыяў ці эталонаў для іх вызначэння. У самых агульных рысах пад тэрмінам "нацыя" разумеюць па-першае, культурна-гістарычную цэласнасць, па-другое, ідэалагічна-палітычную, якая можа атаясамлівацца з дзяржавай – юрыдычнай адзінкай міжнародных зносінаў. Пры шырокім спектры падыходаў да разумення беларускай нацыянальнай ідэі ўсё ж можна ўмоўна вылучыць два – дзяржаўніцкі і культурніцкі. Першы падыход пераважае ў публіцыстыцы, у сродках масавай інфармацыі, дзе інтэнсіўна шукаюць падмурак дзяржаўнай ідэалогіі. Другі падыход дамінуе ў навуковых артыкулах, дзе дэталёва аналізуецца гістарычнае мінулае і перспектывы беларускай нацыі, а апошняя разумеецца як быццё ў кантэксце нацыянальнай культуры.

У стабільных грамадствах дамінаванне прагматызму, дэідэалагізацыя натуральныя, але для краіны ў сітуацыі сістэмнага крызісу патрэбная ідэалогія, асноўная функцыя якой – указваць палітыцы сістэму ідэалаў і каштоўнасцяў, да якіх тая павінна імкнуцца. Ідэалы дэмакратыі, правоў чалавека, свабоды, дабрабыту агульныя для ўсіх, яны мусяць стаць ідэаламі і нашай дзяржавы. Але яна дасягае гэтых ідэалаў толькі праз сваю ўнутраную магутнасць, сіла якой – ў традыцыйных народных каштоўнасцях, беларускай мове і беларускай культуры. Без мэтанакіраванай, паслядоўнай, сістэмнай падтрымкі беларускай культуры і беларускай мовы дзяржава становіцца пустой юрыдычнай формай-фікцыяй, губляе ўнутраны істотны сэнс і перастае існаваць як самастойная сацыяльная сістэма, жывы арганізм.

Такім чынам, калі беларуская дзяржава не вырашыць "культурнамоўнай" праблемы, наўрад ці яна здолее адшукаць ідэю, якая б кансалідавала беларускае грамадства – разгубленае, расколатае, падзеленае.

Сёння агульная формула "беларускай нацыянальнай ідэі" наўрад ці можа быць сфармулявана, глыбока канкрэтызавана. Беларуская нацыянальная ідэя, без якой не можа быць беларускай нацыі, бо яна ёсць гістарычнай місіяй і апраўданнем апошняй, тым не менш, існуе.

БНІ – сканцэнтраваная сістэма беларускіх ідэалаў і мэтаў, форма сацыяльнай і індывідуальнай свядомасці, духоўна-інтэгральная сіла, якая не можа насіць ні класавага, ні чыста рэлігійнага характару. БНІ вызначае сэнс пройдзенага гістарычнага шляху, яна выражае філасофію жыцця і мае духоўна-маральнасны характар.

Сваю формулу БНІ я б акрэсліла як "вяртанне і набыццё свайго", а сённяшнюю задачу нацыянальнай ідэі я бачу ў неабходнасці падняцца над палітыкай так, каб стаць праявай усіх палітычных партый і рухаў, усіх сфер жыцця. Сіла БНІ – у веры, што беларуская нацыя мае законы свайго ўласнага існавання, і гэта патрабуе поўнага самавыяўлення і свабоды ад усялякага знешняга ціску.

Беларуская нацыянальная ідэя – маральная па сваёй сутнасці, бо:

а) накіроўвае чалавека і грамадства на развіццё творчага духу нацыі, правакуе грамадскую актыўнасць, улагоджвае канфлікт паміж справай і духам, прапагандуе такое грамадства, у якім чалавек мае годнасць, мужнасць, мудрасць, пакору;

б) адмаўляцца ад свайго, не змагацца за сябе – самазабойства, грэх, амаральна;

в) БНІ звяртае ўвагу на самаразвіццё і самарэалізацыю без пасягнення на свабоду іншых нацый;

г) БНІ абуджае памяць, без якой няма маралі;

д) БНІ і патрабуе ўнутранай свабоды, і дае гэтую свабоду;

ж) БНІ абапіраецца на сумленне асобы і нацыі, патрабуе самаахвярнасці і цярпення, павагі да індывідуальнасці, апоры на вечнае.

У маралі і рэлігіі – адна аснова: чалавек мае бессмяротную душу і свабоду волі. Рэлігійны, а найперш хрысціянскі аспект нацыянальнай ідэі ўсё часцей падкрэсліваецца ў працах сучасных беларускіх даследчыкаў (А.Астапенка, У.Конан, М.Крукоўскі, Л.Лыч, Ю.Хадыка і інш.).

Уплыў хрысціянства на лёс беларускай нацыі можа разглядацца ў плане знешнім, калі яно ў сваіх розных формах выступае як адзін з культурна-гістарычных чыннікаў у пэўным часе, ўнутраным, калі непасрэдна фармуе светаўяўленне кожнага канкрэтнага чалавека і праз гэта ўплывае на рэалізацыю беларускай нацыянальнай ідэі.

У адрозненне ад большасці іншых рэлігій хрысціянства знаходзіць апору не ў эпічна-міфалагічнай традыцыі, а ў асабістым прыкладзе Хрыста, што накіроўвае свабоду чалавека не толькі на ўнутраную рэальнасць душы, але і на пераўтварэнне знешняга свету, калі сам чалавек становіцца цалкам адказным за свой лёс. Беларуская ж нацыянальная ідэя ёсць нічым іншым, як добраахвотна прынятай адказнасцю ўнутрана свабоднай асобы. І яна патрабуе менавіта яркіх, свабодалюбівых, актыўных асобаў, здольных павесці за сабой людзей.

Хрысціянства, як рэлігія неадмаўлення, сцвярджэння, каласальнага ўзняцця духу, вялікага духоўнага напружання і высілкаў, чаго патрабуе падняцце над прыроднымі патрэбамі, прымушае нас памятаць, што мы маем дзве радзімы, якім трэба быць вернымі: канкрэтная зямля з яе культурай і Дух. Хрысціянства патрабуе змагання са Злом у адрозненне ад, скажам, паганства – гэтай натуральнай рэлігіі, простай і лёгкай, параджэння чалавечай псіхікі з яе імкненнем да цяпла, утульнасці, камфорту, рэлігіі, якая патрабуе бязлітаснасці да сябе дзеля выканання свайго прызначэння на Зямлі. Таму менавіта з хрысціянства лагічна выцякае неабходнасць спраўджвання беларускай нацыянальнай ідэі, а беларускім патрыётам так неабходна абапірацца на хрысціянства і жыць у яго сістэме.

Хоць у Бібліі ідэй вельмі шмат, але асноўная – ідэя станаўлення. Сучасныя філосафы называюць гэта лінейнай канцэпцыяй развіцця, якая ідзе ўперад і ўверх. Веды, навука сведчаць, што свет згарыць, замерзне, рассыплецца ў парашок, эпідэміі знішчаць чалавека. Вера ж у светлую будучыню – гэта спадчына хрысціянства. Некаторыя вучоныя сведчаць, што беларускія архетыпы спароджаныя найбольш паганствам. Але ж менавіта паганства гаворыць, што быў век залаты, потым жалезны і г.д., а цяпер усё ідзе да згасання свету. У старажытнасці ўсё было лепш: былі перыяды залатога росквіту беларускай культуры, беларускай дзяржаўнасці і т.п. А хрысціянства кажа, што лепшае будзе наперадзе. Невыпадкова хрысціянства грунтуецца на ідэі ўваскрэсення, а беларуская нацыянальная ідэя – на ідэі Адраджэння…

Дык ці пойдзем мы назад, з паганствам і да паганства, дзе так цёпла, утульна, і не патрэбна вялікіх высілкаў? Да паганства, якое ўласцівае чалавеку прыроднаму, недухоўнаму? Ці ўсё ж пойдзем з хрысціянствам і наперад да хрысціянства, якое сведчыць, што шлях цяжкі, але складанасці загартоўваюць, а агонь пакут не спальвае, але ачышчае і ўздымае? Ці разумеем пазітыўна-культурны сэнс старадаўняга паганства, як народна-мастацкай рэлігійнай свядомасці з яго "верай у Боскае тварэнне, у быццё, космас, красу і самакаштоўнасць" і "захаванне паганскай творчасці ў хрысціянскай свядомасці і культурнай традыцыі" (Ул. Конан).

Толькі праз рычаг духу можна ў рэшце рэшт атрымаць дадатковую сілу, можна пераадолець душэўную слабасць, беларускую вяласць і абыякавасць і АДРАДЗІЦЦА. Натуральны, недухоўны чалавек, паганец, заўсёды толькі губляе – старэе, забывае і г.д. Духоўны ж чалавек і адпаведна нацыя, якая развівае свой дух, як бы ні спатыкалася, якія б не рабіла зігзагі, усё роўна толькі набывае, усё роўна адродзіцца на новым вітку. Хрысціянства - рэлігія смерці, якая тут жа змяняецца жыццём. Кожны раз сярод беларусаў нараджаліся свае прарокі, якія ратавалі свой народ. Так будзе і далей.

Хрысціянства дзеля ўдасканалення і ўсталявання Дабра патрабуе значных высілкаў. У нашым кантэксце гэта можа выглядаць наступным чынам.

Пасіянарна апантаныя беларускай ідэяй людзі – нацыяналісты (гэтае слова я ўжываю калі не становуча афарбаваным, дык нейтральным, якім і павінен быць навуковы тэрмін) – мусяць зразумець і прыняць светабачанне сваіх апанентаў. Трэба сцвярджаць беларускую ідэю, нічога не адмаўляючы, бо сэнс жа маральнай культуры выяўляецца ў адносінах да непадобнага да сябе. Як у І. Абдзіраловіча: "Творачы, Зруйнуем!" Не дай Божа зрабіць са сваіх суайчыннікаў, якім не пашчасціла знайсці і рэалізаваць сябе ў беларушчыне, ворагаў. У нас не павінна быць баявой псіхалогіі яшчэ таму, што зноў цытую І. Абдзіраловіча: "Не толькі дзеля карысці і з прычыны нізкіх пабуджэнняў нельга назваць сваіх ворагаў – ворагамі, а з прычыны грунтоўнай невыразнасці жыцця, калі часта самыя простыя рэчы цяжка назваць іх уласнымі імёнамі… Вялікі абшар жыцця застаецца невыразным цёмным і толькі з вялікай тугой гэтае шэрае можна назваць белым, або чорным…". Палюбіць сваіх ворагаў раіць і хрысціянства, бо любоў адна будуе, ствярае, нараджае, удасканальвае.

З пункту гледжання сацыяльна-гістарычнага беларуская нацыянальная ідэя і хрысціянства суадносяцца як сістэма лакальная, прыватная і сістэма ўніверсальная, усеагульная, якія, аднак, маюць шмат тыпалагічных агульных рысаў. Але з гледзішча значнасці для духоўнага жыцця асобы, якая, напрыклад, жыве ва ўлонні беларускай культуры, гэтыя катэгорыі і адпаведныя каштоўнасці раўназначныя, а перад вечнасцю – выратавальныя.

*(Другая частка артыкула Л. М. Уладыкоўскай - Канаплянік будзе надрукована ў адным з бліжэйшых нумароў.)*

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Пётр Першы і Беларусь

*Кожны з вас, вядома, чуў пра расейскага цара Пятра I. Ён шмат зрабіў, каб умацаваць сваю дзяржаву. Клапаціўся пра войска, пабудаваў флот. Далучыў да сваёй краіны новыя землі. Пятроўская дзяржава пачала называцца Расейскай імперыяй, а сам ён – імператарам.*

*У Расеі заслужана шануюць гэтага цара і лічаць яго выдатным дзяржаўным дзеячам.*

*Але ці варта захапляцца Пятром I нам, беларусам? Што зрабіў ён для нашай зямлі?*

### Паўночная вайна

Сеўшы на расейскі трон, цар Пётр вырашыў, як ён сам казаў, прасекчы акно ў Еўропу. Гэта значыць, ён хацеў адваяваць сабе бераг Балтыйскага мора і пабудаваць там свае крэпасці-фартэцы і порты для ваенных і гандлёвых караблёў. Дзеля гэтага ён пачаў вайну са Швецыяй, якой тады належалі прыбалтыйскія землі. Вайна атрымала назву Паўночная.

Вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі Аўгуст II быў саюзнікам Пятра. Але частка беларускіх магнатаў начале з Сапегамі падтрымала шведскага караля Карла і дапамагла яму войскам. Пётр I паслаў на Беларусь 70-тысячную армію.

Так на пачатку XVIII стагоддзя нашу Бацькаўшчыну зноў напаткала вайна.

Тут адбылося некалькі жорсткіх бітваў паміж расейцамі і шведамі. Самая вялікая з іх была бітва каля вёскі Лясная на Магілёўшчыне, дзе войскам Пятра ўдалося здабыць важную перамогу.

### Цар у Полацку

Калі вы прыедзеце ў Полацк, вам абавязкова пакажуць старадаўні мураваны дом, дзе ў гады Паўночнай вайны спыняўся расейскі цар. Ён пражыў у горадзе ўсяго месяц, але назаўсёды пакінуў па сабе страшную памяць, бо ўчыніў там крывавае злачынства. Прычым зрабіў гэта не дзе-небудзь, а ў святым для кожнага беларуса месцы – Сафійскім саборы.

Пётр ніколі не быў набожным. Заходзячы ў храм, ён, праўда, заўсёды здымаў з галавы парык, але нават са сваімі расейскімі папамі ніколі не цырымоніўся. Уніятаў жа ён проста ненавідзеў, бо яны не падпарадкоўваліся маскоўскім царкоўным уладам. У Віцебску цар загадаў, напрыклад, секчы і паліць уніяцкія абразы.

Аднойчы Пётр з некалькімі прыдворнымі, перад гэтым добра выпіўшы, зайшлі ва ўніяцкі Сафійскі сабор. Простых вернікаў такой парою не было, маліліся толькі шэсць святароў і манахаў. Цар гучна запатрабаваў зрабіць яму па храме экскурсію. Немалады святар айцец Канстанцін мусіў падпарадкавацца і пачаў апавядаць няпрошаным гасцям пра галоўны сабор беларускіх уніятаў.

Адзін з абразоў не спадабаўся цару, і ён ударыў святара сваім пудовым кулаком. Айцец Канстанцін упаў, і Пётр цяжка параніў яго шабляй. Беручы прыклад з раз'юшанага гаспадара, прыдворныя таксама выхапілі шаблі і распраўляліся з безабаронымі людзьмі. Па храме паплылі крывавыя ручаі. Уратавацца ад п'яных катаў удалося толькі аднаму святару, якога палічылі забітым. Старэнькага айца Якуба царовы служакі забралі з сабой і ўсю ноч катавалі, патрабуючы выдаць, дзе схаванае саборнае золата. Уранні айца Якуба і айца Канстанціна павесілі. Целы пяці забітых беларускіх святароў Пётр загадаў спаліць, а попел развеяць над Дзвіной, каб на іхняй магіле не маглі збірацца людзі.

Пра гэтае злачынства даведаліся ў іншых краінах. Каб спыніць непажаданыя размовы, цар выдаў адмысловы загад. Там гаварылася, што гэта самі полацкія святары напалі ў Сафійскім саборы на гасцей і тыя, каб абараніцца, мусілі іх забіць. У Расейскай дзяржаве заўсёды ўмелі з чорнага рабіць белае.

### Царская помста

За вольналюбнасць і незалежнасць Пётр I жорстка пакараў не толькі полацкіх уніятаў, але і іхні сабор. Спачатку храм святой Сафіі аддалі салдатам на рабаванне, а потым зрабілі па загадзе цара вайсковым складам. Там трымалі розныя прыпасы, а часам і коней.

У саборных сутарэннях расейцы захоўвалі порах. Досыць было іскрынкі, каб беларуская святыня ўзляцела ў паветра.

І такая іскра ўспыхнула якраз напярэдадні адыходу з Полацка царскіх войскаў.

Вядома, здараецца гэта невыпадкова.

Сафійскі сабор ператварыўся ў куродымныя руіны. Трыццаць гадоў яны стаялі на высокім полацкім замчышчы, выклікаючы ў сэрцах палачанаў і тых, хто плыў па Дзвіне, глыбокі смутак, нагадваючы пра цяжкія страты роднай зямлі.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя уніяты адбудавалі сабор. Тады ён і набыў знаёмае нам сучаснае аблічча.

### Саюзнікі ці захопнікі?

Расейскі імператар і ягоныя людзі трымаліся ў Беларусі не як саюзнікі, а як захопнікі.

Так было не толькі ў Полацку.

Гістарычныя дакументы апавядаюць, як паводзіў сябе ў Магілёве сябра і паплечнік цара Аляксандр Меншыкаў. Заняўшы горад, ён запатрабаваў ад жыхароў карміць і паіць свае вялікае войска. Кожны дзень магілёўцы былі абавязаны дастаўляць "саюзнікам" некалькі бочак віна, мёду і піва, жывога вала, некалькі дзесяткаў бараноў, некалькі асятроў і самоў, цэлыя чароды гусей і курэй, сто булак і дзвесце калачоў, а таксама разынкі, міндаль і іншыя прысмакі. Горад выконваў усе загады, але, замест удзячнасці, быў спалены.

Ад расейцаў Беларусь зазнала гора не меней, чым ад шведаў.

Царскія казакі з чатырох бакоў падпалілі Віцебск. Горкія ўспаміны засталіся ад "саюзнікаў" і ў Менску.

Там расейская кавалерыя абчысціла жаночы манастыр святой Тройцы, ад якога пайшла назва сённяшняга Траецкага прадмесця. Шукаючы золата, зладзеі паламалі ў манастырскім саборы алтар і ўзадралі падлогу. Потым надышла чарга Святадухаўскай царквы на Высокім рынку (там, дзе цяпер плошча Свабоды) ды іншых манастыроў і храмаў.

Менчукі ўзяліся за зброю, і на Нямізе адбылася яшчэ адна бітва.

За гады Паўночнай вайны беларускі народ страціў 800 тысяч чалавек. Загінуў амаль кожны трэці. Гэтая вайна і жорсткі расейскі цар Пётр не прынеслі Беларусі нічога, апрача крыві, пажараў і разбурэнняў.

**Пытанні і заданні:**

1. *Чаму Пётр I паслаў на Беларусь свае войска?*
2. *Якое злачынства ўчыніў цар у Полацку?*
3. *Як цар адпомсціў Сафійскаму сабору?*
4. *Раскажы, як Пётр і ягоныя людзі паводзілі сябе на нашай беларускай зямлі.*
5. *Ці ёсць у беларусаў якія-небудзь падставы шанаваць памяць Пятра I ?*



**Пётр I ў Полацкім Сафійскім саборы**

## Крычаўскае паўстанне

### Жыццё пад прыгнётам

Гэта было 250 гадоў назад.

Вакол старажытнага беларускага горада Крычава раскінуліся на берагах Сожа землі Крычаўскага староства. Тут жылі працавітыя і таленавітыя людзі – хлебаробы і ганчары, цесляры і муляры. У майстэрнях-гутах зараблялі сабе хлеб шкларобы-гутнікі. Умелі крычаўцы рабіць добрую зброю. Асабліва славіліся крычаўскія гарматнікі, якіх запрашалі вучыць свайму майстэрству ў суседнюю Маскоўскую дзяржаву.



**Крычаў у XVIII ст.** *Паводле карціны М. Іванова*

Прыгожая і багатая была тут зямля, але бедна жылі на ёй людзі. З году ў год іх усё больш прыгняталі жорсткія ды сквапныя арандатары – тыя, каму на некалькі гадоў аддаваў староства за грошы ягоны гаспадар. Арандатары імкнуліся паспець выбіць за адведзены ім час, як мага больш прыбытку. Паны Валкавіцкія толькі за два гады сабралі з крычаўцаў і паклалі сабе ў кішэню 100 тысяч злотых звыш законных падаткаў.

Вялікім няшчасцем былі для Крычаўскай зямлі таксама пастоі каралеўскага войска. Жаўнеры прымушалі сялянаў і гараджанаў за свой кошт карміць і паіць цэлыя палкі. Крычаўцы скардзіліся на крыўдзіцеляў свайму гаспадару, але той адмахваўся ад іх, як ад надакучлівых мух.

### Князь Геранім Радзівіл

Крычаўскае староства належала князю Гераніму Радзівілу.

Род Радзівілаў, пра які мы ўжо казалі і раней, быў у Беларусі самы багаты і магутны. Ён мог паспрачацца з самім каралём і вялікім князем. Сталіцаю Радзівілаў лічыўся горад Нясвіж, але ім належала безліч земляў і прыгонных сялянаў і ў Беларусі, і ў Жамойці, і на Украіне. Гэты род меў свае войска, трымаў на азёрах і рэках свой флот і нікога не баяўся. Нездарма тады казалі: "Кароль у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы".

Сярод Радзівілаў траплялiся розныя. Былі добрыя ваяводы, як, напрыклад, князь Юры, які перамог у пяцідзесяці бітвах і атрымаў за гэта мянушку Геркулес. Былі людзі вельмі адукаваныя, якія збіралі рэдкія кнігі, дапамагалі мастакам і пісьменнікам, адчынялі школы. У мястэчку Смаргонь Радзівілы трымалі "мядзведжую акадэмію". Так называлася школа, дзе мядзведзяў навучалі розным смешным і вясёлым штукам.

Траплялiся сярод Радзівілаў і самадуры. Адзін, напрыклад, загадаў навазіць у Нясвіж солі, пасыпаць ёю заместа снегу дарогу і ўлетку катаўся на санях, запрэжаных мядзведзямі.

Князь Геранім быў чалавек разумны, але страшна прагны і бязлітасны. Ён кінуў у турму роднага брата і здзекаваўся са сваіх жонак. Мог ні за што павесіць пад вокнамі спачывальні слугу. Мог загадаць зашыць у мядзведжыя шкуры і кінуць на разарванне сабакам непакорлівых сялянаў.

Вось да якога чалавека траплялі скаргі крычаўскіх людзей.

*(Працяг у наступным нумары.)*

